СВАБОДА, РОЎНАСЦЬ, БРАТЭРСТВА

# Беларускі Усход

ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!

**РЭСПУБЛІКАНСКАЯ НЕЗАЛЕЖНАЯ ДЭМАКРАТЫЧНАЯ ГАЗЕТА**

**Кошт у розніцу 30 руб.**

**№ 1**
**субота**
**18 снежня**
**1993 г.**

**Тэлепраграма — на 3-й старонцы**

## МЭТЫ І ЗАДАЧЫ РЭДАКЦЫІ

Паважаныя чытачы «Беларускага Усходу»! Зараз у нашай краіне распаўсюджваецца процьма перыядычных выданняў розных накірункаў. Ад псеўдакамуністычных да проста вульгарных. Мноства з іх вызначаюцца тэматычнай аднабокасцю: то залішне запалітызаваныя, то занадта камерцыйныя, то да прыкрасці эратычныя.

Рэдакцыйны ж калектыў нашай газеты ставіць сваёй мэтай выхаванне ў чытачоў духоўнасці, высакароднасці, чэснасці, працалюбства, міласэрнасці, таварыскасці, любові да бліжняга, да Бацькаўшчыны, хрысціянскага і агульначалавечага інтэрнацыяналізму, грамадзянскага сумлення і грамадскай актыўнасці.

У задачы газеты ўваходзіць асвятленне і аб'ектыўнае адлюстраванне грамадска-палітычнага, эканамічнага і культурнага жыцця на Беларусі, вытворча-гаспадарчай дзейнасці прадпрыемстваў і гаспадарак, усіх форм уласнасці. Мы будзем выяўляць народныя таленты, друкаваць іх літаратурна-мастацкія і іншыя творы, прадастаўляць усім жадаючым старонкі газеты для выказвання разнастайных думак і меркаванняў, палітычных поглядаў.

Газета будзе друкаваць разнастайныя парады хатнім гаспадыням, фермерам, дачнікам. Знойдуць цікавую інфармацыю для сябе на старонках газеты і веруючыя хрысціяне-праваслаўныя і каталікі.

Аматары цікавага змогуць прачытаць перадрукоўкі з рэдкіх і не кожнаму даступных выданняў.

Словам, кожны чытач знойдзе на старонках «Беларускага Усходу» штосьці яму да спадобы.

Мы спадзяёмся на Ваша шчырае сяброўства з газетай, дарагія чытачы! Чакаем вашых пісьмаў, парад, прапаноў, паведамленняў у рэдакцыю.

Жадаем кожнаму чытачу «Беларускага Усходу» моцнага здароўя, асабістага шчасця і ўсяго найлепшага ў жыцці!

**Рэдакцыйны калектыў «Беларускага Усходу»**



Зімовы трафей. Фота В.БЫСАВА.

## НАВІНЫ. ПАДЗЕІ. ФАКТЫ

Сёння ў Мінску ў Доме Літаратара адбудзецца III з'езд Беларускай Сялянскай партыі. З'езд будзе абмяркоўваць перадвыбарную платформу партыі, палітычнае становішча ў Беларусі, змены ў Статуце, абярэ кіруючыя органы БСП.

Вядомую прыказку «Дурню Закон не пісаны» сёння трэба чытаць як «Беларускаму Ураду Закон не пісаны».

Сапраўды, у пункце трэцім артыкула II Закона РБ «Аб праве ўласнасці на зямлю» чорным па беламу напісана: «Сродкі, якія паступаюць ад продажу зямлі, што адчужаецца ў прыватную ўласнасць, накіроўваюцца ў спецыяльны пазабюджэтны фонд адпаведнага мясцовага Савета народных дэпутатаў і выкарыстоўваюцца на ахову зямель, павышэнне іх якасці, землеўпарадкаванне і сацыяльнае развіццё тэрыторый».

Аднак, як той Казьма Пруткоў казаў, не вер напісанаму. Бо для нашага Урада Закон, як той дышаль. Урад хапае выручаныя за нашу зямлю сродкі ў рэспубліканскі бюджэт і праглынае іх, як галодная жывёліна, і яму яшчэ ўсё не хапае.

У г.Клімавічы на Магілёўшчыне пачынае актыўна дзейнічаць новая пярвічная арганізацыя партыі Народнай Згоды. Члены партыі прапагандуюць сярод насельніцтва Клімавіч і раёна мэты і задачы ПНЗ, яе праграмныя палажэнні.

## ЦЕНЫ

**НА ОСНОВНЫЕ ВИДЫ СЕЛЬХОЗПРОДУКЦИИ МОГИЛЕВСКОГО ЦЕНТРАЛЬНОГО РЫНКА В ПОСЛЕДНИЕ ВЫХОДНЫЕ (В РУБЛЯХ)**

**Свинина — 1 кг — 6,5-11 тыс. руб.**
**Говядина — 1 кг — 3-6,5 тыс. руб.**
**Телятина — 1 кг — 4-6 тыс.руб.**
**Сало свежее — 1 кг — 7-10 тыс.руб.**
**Сало соленое — 1 кг — 7-9 тыс. руб.**
**Картофель — 1 ведро — 1-1,5 тыс. руб.**
**Сахар — 1 кг — 1,8-2 тыс.руб.**
**Масло подс. — 1 л — 5-5,5 тыс. руб.**
**Сухофрукты (ябл) — 1 кг — 2,5 тыс.руб.**
**Чеснок — 1 кг — 4 тыс.руб.**
**Капуста свежая — 1 кг — 250 руб.**
**Яйцо — 1 дес. — 2,4-2,5 тыс. руб.**
**Свекла — 1 кг — 300-400 руб.**
**Лук репчатый — 1 кг — 700 руб.**

*За зямлю і волю!*

## СЛОВА ПРАЎДЫ

**(Зварот Сялянскай партыі да грамадзян Беларусі)**

Палітычная, эканамічная і сацыяльная сітуацыя дасягнула крытычнай кропкі, набліжаецца час катастрофы. Актыўна ідзе спад вытворчасці, аграрны сектар паралізаваны. Існуючая падатковая сістэма не стымулюе вытворцаў. Эканоміка развалена, нікім не кіруецца і, як грузавік без тармазоў, імкліва коціца ў бездань. Усё гэта вялікім цяжарам лажыцца на плечы народа, асабліва сялян. Хутка многія людзі, і ў першую чаргу пенсіянеры, стануць галадаць. Іх заробак не паспявае даганяць нястрыманы рост цэн.

Другі з'езд БСП амаль год назад адзначаў: «Цяперашні Вярхоўны Савет і створаны ім Урад не здольны правесці зямельную рэформу і вывесці эканоміку з крызісу». Час пацвердзіў гэты вывад.

Сітуацыя ў Вярхоўным Савеце пастаянна пагаршаецца. Трэцяя частка дэпутатаў наогул у ім не працуе, а астатнія не здольны прыняць неабходныя законы. Абмеркаванне праекта новай канстытуцыі і праекта закона аб зямлі, паказала, што ВС зайшоў у тупік.

Урад, выхаваны і загартаваны ў нетрах ЦК КПБ, дзейнічае праверанымі метадамі. Карыстаючыся дзяржаўнай кішэняй, ён захапіў у свае рукі ўсе сродкі масавай інфармацыі і ўстанавіў жорсткую цэнзуру. Слова праўды рэдка прабіваецца да людзей.

Каб зняць з сябе адказнасць за развал эканомікі і захаваць сваю ўладу, Урад спрабуе абаперціся на штыкі чужога войска. Вось пагэтаму ён адказваецца ад нейтралітэту і імкнецца ўступіць у вайсковы саюз. Ведайце, што нейтралітэт дае шмат пераваг і выгад. Швецыя і Швейцарыя, нейтралітэт якіх быў прызнаны сусветнай супольнасцю, перажылі дзве сусветныя вайны і не ўдзельнічалі ў іх. Ад уступлення ў калектыўную бяспеку цана на нафту не стане ніжэй за сусветную.

Валютныя крэдытыператварыліся ў складанейшую праблему. Значная частка іх асядае ў сейфах замежных краін на рахунках цяперашняй наменклатуры і не прыносіць карысці Беларусі. Наадварот, нас вядуць у кабалу. І наступныя пакаленні будуць працаваць толькі каб вярнуць працэнты па гэтых крэдытах.

Ня трэба спадзявацца ні на захад, ні на ўсход. Адна надзея — на сваю зямлю. Сялянская партыя за тое, каб кожны атрымаў хто 10 сотак для садовага ўчастка, а хто 25 сотак для абслугоўвання жылога дома, хто 1 га для прысядзібнай гаспадркі, а хто і 50 га для фермерскай гаспадаркі. Толькі так мы зможам выжыць. Але на шляху выжывання стаяць цяперашнія ўлады.

Людзі добрыя! Даволі маўчаць. Маўчанне ўмацоўвае таталітарную сістэму. Кожны дзень знаходжання гэтага кіраўніцтва ва ўладзе набліжае нас да катастрофы. Патрабуйце адстаўкі Урада і датэрміновых выбараў у Вярхоўны Савет. Падтрымайце прапановы С.С. Шушкевіча. Няхай правячая наменклатура пачуе магутны голас народа.

**ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!**

**Цэнтральна Рада Беларускай Сялянскай партыі.**

# ЗВАРОТ ДА НАСТАЎНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Паважаныя калегі — педагогі Беларусі!**

Дзяржаўны прафсаюз настаўнікаў у чарговы раз паказвае спектакль «абароны» інтарэсаў сваіх членаў. Сведчыць аб гэтым шэраг артыкулаў у «Настаўніцкай газеце» за 10 і 13 лістапада. У іх, як і год назад, дзяржпрафсаюз «пагражаюць» Ураду Кебіча **забастоўкай.**

У кастрычніку 1992 г., калі зарплата педагагічных работнікаў з'ехала да 65,3% ад сярэдняга заробку служачых прамысловасці, забаставалі настаўнікі сярэдняй школы № 160 г. Мінска. Сярод патрабаванняў бастуючых было і патрабаванне аб увядзенні ў сілу артыкула 34 Закона «Аб адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», прынятага ў кастрычніку 1991 года. У гэтым артыкуле гаворыцца: «...сярэдняя стаўка заробка педагагічных работнікаў устанаўліваецца не ніжэй сярэдняга заробку служачых у прамысловасці».

Каля 50 педагагічных калектываў Мінска гатовы былі далучыцца да бастуючых. Дзяржпрафсаюз прыклаў вялікія намаганні, каб прадухіліць забастоўку. Старшыня дзяржпрафсаюза Чэбатава Т.І., выступаючы на старонках газеты, абяцала, што пры незадавальненні патрабаванняў настаўнікаў дзяржпрафсаюз сам закліча да забастоўкі. Аднак патрабаванні настаўнікаў не былі выкананы. Дзяржпрафсаюз жа ў чарговы раз прамаўчаў. Сярэдняя зарплата настаўніка пасля чарговага «павышэння» склала ў студзені 1993 года 84,7% ад сярэдняй зарплаты служачых прамысловасці.

Апошнія гады сярэдняя педагагічная нагрузка настаўніка рэспублікі склал 1,6 стаўкі. Таму навучальны год больш палавіны настаўнікаў рэспублікі заканчваюць са знясіленай нервовай сістэмай. Ларынгіт, фарынгіт, язва страўніка, ішэмічная хвароба сэрца і шэраг іншых захворванняў — вось тая плата, якую атрымліваюць настаўнікі за сваю надзвычай цяжкую працу.

Пры такой інтэнсіўнай нагрузцы мы аказаліся па ўзроўню заработнай платы ў жніўні 1993 года на 17-м месцы, а настаўнікі вясковых школ — на 14-м месцы. Матэрыяльнае становішча настаўнікаў зараз намнога горш, чым было год назад.

У цяперашні час калектыў сярэдняй школы № 160 правярае «незалежная» камісія ГУНА.

Вярхоўны Савет РБ на гэтай сесіі павінен увесці ў дзеянне ў поўным аб'ёме Закон «Аб народнай адукацыі ў Рэспубліцы Беларусь», прынятай 29 кастрычніка 1991 года, і ўстанавіць такі парадак, каб педагагічным работнікам павышаная зарплата выплачвалася з апярэджваннем і ўлікам прагноза росту інфляцыі.

Павышэнне ж зарплаты настаўнікам у снежні гэтага года — гэта толькі ўрадавы жэст, каб адмахнуцца ад настаўнікаў.

Мы заклікаем усе педагагічныя калектывы РБ пачаць забастоўку ў выпадку непрыняцця адпаведных рашэнняў Вярхоўным Саветам РБ.

Калегі! Не думайце, што нашы праблемы будуць вырашаны без Вашага ўдзелу!

**Знішчыце ў сабе раба!**
**Толькі ў адзінстве і салідарнасці наша Сіла!**

Аб прынятых рашэннях просім вас паведаміць па адрасу: 220600, г. Мінск, пл. Свабоды, 23, Свабодны Прафсаюз Беларусі.

Тэлефоны: (8-0172) 27-57-78, 24-04-54
з 10.00 да 18.00
34-69-39д — з 18.00 да 21.00.

**Савет свабоднага прафсаюза настаўнікаў школы-гімназіі № 199.**



Что-то чудится родное

**Фото В.БЫСОВА.**

## ХТО ЁСЦЬ ХТО

«Праслаўленым» членам калегіі НКУС у 1918-1920 гадах (калі толькі рабочых і сялян расстралялі каля 2 мільёнаў) быў Барыс Маісеевіч Эльцын — родны дзядзя сённяшняга расейскага прэзідэнта Барыса Ельцына.

**І.ШПАДАРУК,**
**кандыдат філасофскіх навук.**
г.Мінск.

ЗЯМЛЯ І ЛЮДЗІ

# АПТЫМІСТ З РЭМЕСТВА

Калгас імя Свярдлова ў Мсціслаўскім раёне — сапраўдная глыбінка. А вёска Рэмества глыбінка у гэтай глыбінцы. Калі-нікалі сюды наведваецца хто-небудзь з праўленцаў калгаса ці выканкома Ракшынскага сельскага Савета. У райцэнтры ўспамінаюць пра гэты населены пункт толькі тады, калі вызначаюць выбарчыя акругі і ўчасткі па выбарах народных дэпутатаў у Саветы ўсіх узроўняў.

У Рэместве з даўніх часоў жывуць людзі. Праўда, за апошнія дзесяцігоддзі ва ўзроставым складзе жыхароў вёскі адбыліся крутыя змены. Цяпер тут дзевяць дзесятых — пенсіянеры. За маладзейшых засталіся толькі тыя, каму не на каго было пакінуць бацькоў ды патрыёты роднай зямлі. Да такіх адносіцца і Барыс Якаўлевіч Усцілоўскі. Прырода не паскупілася надзяліць яго выключнай працавітасцю і сялянскай кемлівасцю, розумам. Ён умее цвяроза глядзець на ўсе падзеі і з'явы цяперашняга складанага жыцця, рабіць з іх свае неаспрэчныя вывады.

Сустрэліся мы на дарозе непадалёк ад Цёмнага Лесу. Усцілоўскі гнаў К-701 на машынны двор. Павольна вылез з высокай кабіны і, нібы просячы прабачэння, растлумачыў:

— Падрамантаваць трэба гэтую махіну, каб вясной не прастойвала. Ды ніводнай запчасткі няма.

Дамовіліся сустрэцца вечарам. Тады і разгаварыліся.

— Наш калгас самы недарэчны ў раёне. Ніяк не можам выкарабкацца з глыбокай яміны. А хто вінаваты? — пытае Барыс Якаўлевіч, — і працягвае: — Вінаваціць нас, калгаснікаў, толькі дурань стане. Нас, працаздольных, засталася тут жменька. Укалваем удвая больш за механізатараў славутых гаспадарак, а толку аніякага. Па дзвюх прычынах. Па-першае, нікому наша глыбінка не патрэбна. Верхатура даўно на нас махнула рукой. Па-другое, да нас на пасаду старшынь нікіроўвалі асоб нібы для адбыцця пакарання. Праштрафіцца дзесьці наменклатуршчык і яго — сюды. Пабудзе такі штрафнік у нас некаторы час, а потым або сам лататы задае, або з трэскам вытураць, або знойдуць недзе цёпленькае месца і туды ўвапхнуць.

Праўда, трапіў і да нас неяк выдатны чалавек. Анатоль Дзмітравіч Янкоўскі, старшынстваваў у невялікім калгасе імя Кірава. Падняў угору гаспадарку. Ды падаўся на ўгаворы, узначаліў нашу развалюху. І каб вы ведалі, як справы пайшлі! У любы час сутак яго можна было бачыць там, дзе людзі працуюць. І ніхто з калгаснікаў не біў лынды. Наш калгас быў адрэзан бездарожжам ад райцэнтра і без забеспячэння. Дык Янкоўскі дабіўся, што цэглу сталі дастаўляць нам з Падмаскоўя па чыгунцы. На чыгуначную станцыю Цёмны Лес паяздамі прывозілі мінеральныя ўгнаенні і вапнавыя матэрыялы. Заняліся будаўніцтвам, угнаеннем і вапнаваннем палёў. Мы былі ўпэўнены, што і наш калгас выйдзе на ўзровень маякоў і апярэдзіць іх. І меркавалі, што наш старшыня стане Героем Працы.

Ды вось якая рахуба здарылася: характар у Янкоўскага быў хоць і справядлівы, ды рэзкі. Што думаў, тое і гаварыў. Не ўмеў перад начальствам у струнку выцягвацца. Гэта асабліва злавала начальніка раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі Хрысціну Фядосенку. Яна і дамаглася, што Анатоль Дзмітравіч Янкоўскі вымушаны быў пакінуць не толькі калгас, але і раён.

Пасля Янкоўскага ў нас перабыло многа старшынь-фаварытаў. Грамадскую гаспадарку да ручкі дабілі, дакіравалі да шматмільённых даўгоў. Таму кіраўнікі Мсціслаўшчыны выношваюць думку або пусціць наш калгас з аукцыёна, або перадаць суседняму раёну.

Барыс Якаўлевіч з той кагорты пра якіх гавораць, што на такіх людзях зямля трымаецца. Большасць яго равеснікаў дало цягу ў розныя куткі былога СССР. А ён у Рэместве, на роднай зямлі паглыбляе карані роду Усцілоўскіх, памнажае слаўную традыцыю сваіх прашчураў. Механізатар шырокага профілю ні летам, ні зімой не сядзіць склаўшы рукі. У яго штогод самая высокая выпрацоўка па калгасу на трактары К-701, на самаходнай кормаздабываючай машыне і на камбайне ДОН-1500. Яго праца адзначана ордэнамі і медалямі, іншымі высокімі ўзнагародамі. Яго бацька доўга брыгадзірстваваў у калгасе і ў спадчыну сыну перадаў запавет:

— Ніколі не адрывайся, сынок, ад роднай зямлі. Ад яе сіла людская, яна ніколі не пакрыўдзіць сумленнага і руплівага селяніна.

На роднай зямлі трывала стаіць Барыс Якаўлевіч. У яго дружная, працавітая сям'я. Жонка, Ніна Ягораўна, пошту разносіць і хатняй гаспадаркай правіць. Сыны Ігар і Дзмітрый, як і бацька, механізатары. Нявестка, жонка Ігара, настаўнічае ў сярэдняй школе. Ёсць у Усцілоўскіх прысядзібны ўчастак з садам, карова з нецелем, вепрукі, хатняя птушка. Часта на ўласнай «Ніве» ўсёй сям'ёй ездзяць у Мсціслаў, Горкі, Магілёў. А ў прасторным доме сучасная бытавая тэхніка.

— Вашай сям'і фермерствам заняцца, — намякаю субяседніку.

— Не прагадаў бы, — быццам згаджаецца Усцілоўскі. — Як раней называлі, сваёй сям'ёй кулацкую гаспадарку хутка стварыў бы на сотні гектарах зямлі. Але ў нашай вёсцы на аднаго працаздольнага дзевяць пенсіянераў. Дапусцім што я і яшчэ трычатыры механізатары станем фермерамі, заграбастаем усю зямлю. А куды дзявацца астатнім? Цяпер мы ў адным калектыве. Добрая палова аднавяскоўцаў — блізкія ці далёкія родзічы. Не чужыя і астатнія жыхары. Цяпер мы адзін другому дапамагаем і ў першую чаргу бездапаможным сем'ям.

— Нас, жыхароў глыбінных вёсак, — з горыччу канстатуе Усцілоўскі, — гараджане лічаць адсталымі людзьмі, далёкімі ад сучаснай цывілізацыі. Трагічная памылка. Друк, радыё, тэлебачанне наблізілі краіну, увесь свет да кожнай глыбінкі. Скажу больш. Калі большасць гараджан, рабочага класа паддалася спачатку на правакацыі Гарбачова, потым Ельцына і іх памагатых, то сельская глыбінка адразу адвергла іх авантуру. Былыя партыйныя лідэры, Гарбачоў і Ельцын, здрадзілі КПСС. А я быў, з'яўляюся і назаўсёды застануся камуністам.

**М.АНЮКОЎ,**
**Магілёўская вобласць.**

# ЯК ВЫЙСЦІ З КРЫЗІСУ?

Эканамічны крызіс давёў народную гаспадарку Рэспублікі Беларусь да краху. Інфляцыя, агульнае падзенне вытворчасці і жыццёвага ўзроўню насельніцтва, пустыя паліцы магазінаў — відавочныя сведчанні страты ўпраўлення эканомікай. Гэта бачыць і адчувае на сабе пераважная большасць насельніцтва Рэспублікі. Палітыка ўрада і Вярхоўнага Савета вядзе не толькі да канчатковага развалу эканомікі, але і да страты незалежнасці Рэспублікі, ліквідацыі беларускай дзяржаўнасці.

Патрабуюцца неадкладныя меры па пераўтварэнню эканомікі Беларусі з каманднa-загадавай у сацыяльную рынкавую, арыентаваную на інтарэсы спажыўца. Таму неабходна ў першую чаргу зрабіць наступнае:

**1. Спыненне інфляцыі, упарадкаванне і стабілізацыя фінансавай сістэмы:**

1.1. Карэнным чынам перагледзець фінансава-крэдытную палітыку з мэтай зніжэння дэфіцыту дзяржаўнага бюджэту да 6% валавога нацыянальнага прадукта. Для гэтага правесці рэвізію ўсіх даходных і расходных частак бюджэту. Зменшыць падатковы прэс на таваравытворцаў, скасаваць неабгрунтаваныя ільготы па падатках з фізічных і юрыдычных асоб, увесці эфектыўную кантралюемую сістэму падаткаабкладання, скасаваць усе пазабюджэтныя фонды. Упарадкаваць расходную частку бюджэту, скасаваць датацыі вытворцам, скараціць выдаткі на ўтрыманне дзяржаўнага апарату;

1.2. Правесці рэформу банкаўскай сістэмы, забяспечыць незалежнасць Нацыянальнага Банка ад Урада;

1.3. Увесці нацыянальную валюту.

**2. Раздзяржаўленне эканомікі і прыватызацыя:**

2.1. За як магчыма больш кароткі тэрмін перадаць большую частку сродкаў вытворчасці ва ўласнасць грамадзян, працоўных калектываў і юрыдычных асоб, карыстаючыся рознымі формамі прыватызацыі.

2.2. Прадаставіць прадпрыемствам незалежна ад формы ўласнасці поўную гаспадарчую самастойнасць.

2.3. Пачаць рэальную дэманапалізацыю эканомікі.

2.4. Стварыць неабходныя юрыдычныя і эканамічныя ўмовы для прыцягнення замежных інвестыцый і ўваходжання Беларусі ў сусветную рынкавую сістэму.

2.5. Стварацъ спрыяльныя юрыдычныя і эканамічныя умовы для эфектыўнага выкарыстання інтэлектуальнай уласнасці і творчага патэнцыялу грамадзян.

**3. Аграрная рэформа:**

3.1. Ліквідаваць заканадаўчыя абмежаванні на права прыватнай уласнасці на зямлю.

3.2. Стварыць спрыяльныя эканамічныя і прававыя ўмовы для трансфармацыі калгасаў і саўгасаў у вытворчыя структуры рыначнага тыпу, сфарміраваць рынкавыя структуры ў галіне перапрацоўкі сельгаспрадукцыі і аграсэрвісу.

3.3. Забяспечыць неабходныя ўмовы для арганізацыі і дзейнасці сялянскіх і фермерскіх гаспадарак.

**4. Рэфармаванне дзяржаўных органаў кіравання:**

4.1. Скасаваць усе надміністэрскія структуры ў складзе Савета Міністраў Рэспублікі Беларусь і скараціць галіновыя структуры дзяржаўнага кіравання на ўсіх узроўнях народнай гаспадаркі.

4.2. Падрыхтаваць рэформу адміністрацыйна-тэрытарыяльнай структуры Беларусі на прынцыпах мясцовага самакіравання.

**5. Сацыяльная абарона грамадзян:**

5.1. Пераарыентаваць сацыяльную палітыку на адрасную падтрымку толькі тых, хто не можа забяспечыць сябе сваёй працай.

5.2. Захаваць дзяржаўную падтрымку аховы здароўя, народнай адукацыі, навукі і культуры. Узмацніць яе за кошт скарачэння датацый неэфектыўным прадпрыемствам.

**Каардынацыйны камітэт Аб'яднання дэмакратычных сіл «Вясна-94».**

## А «ЗАЙЦОЎ» УСЁ БОЛЬШ

Чым даражэй становіцца кошт праезду ў гарадскім транспарце, тым больш людзей перастаюць яго аплачваць. Гэта паказала толькі адна праверка аўтобусаў унутрыгарадскіх маршрутаў, праведзеная работнікамі аддзела эксплуатацыі аўтапарка 3 г. Крычава сумесна з супрацоўнікамі міліцыі.

Яна пачалася ў 7.30 і закончылася ў 14 гадзін. Было праверана каля трох дзесяткаў аўтобусаў і затрымана 22 «зайцы», у той час, калі за ўвесь мінулы год было выяўлена ўсяго 416 безбілетных пасажыраў. Каго вінаваціць? Пасажыраў ці нашу разваленую эканоміку з шалёнымі цэнамі?

**А.БАЛДОЎСКІ.**
**г. Крычаў.**

